**Выдавец:**
ПП
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

42 (550) 21 кастрычніка 2010 года Кошт **свабодны**




**Аляксандр Жарабянкоў (крайні справа) выбраў «Зорку» і выйграў тэлевізар SONY KLV-32BX300.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*

# Выберы «Зорку»!

■ Ул. Скрабатун

**Мінскі ювелірны завод «Зорка» правёў рэкламную гульню, у якой удзельнічала 77 ювелірных магазінаў краіны, сярод якіх і глыбоцкі магазін «Облік». Прызавы фонд рэкламнай гульні «Выберы «Зорку» склаў 91 290 461 беларускі рубель. Было разыграна 56 тэлевізараў.**

Каб стаць шчаслівым і выйграць тэлевізар «Sony», трэба было ў перыяд з 15 жніўня па 30 верасня 2010 года набыць ювелірны выраб завода «Зорка» ў адным з 77 магазінаў, запоўніць картку ўдзельніка і разам з касавым чэкам да 30 верасня перадаць прадаўцу магазіна, дзе быў набыты ювелірны выраб. Розыгрыш прызоў адбыўся 8 кастрычніка ў Мінску па вул.Чайкоўскага,73А (канферэнц-зала).

Адзін з 56 тэлевізараў SONY KLV-32BX300 дастаўся глыбоцкаму ювелірнаму магазіну «Облик», вул. Кірава, 30/2.

Там, у Мінску, жэраб'я і абрала ўладальніка прыза – Аляксандра Жарабянкова з Докшыцаў. Аляксандр з жонкай Марынай у згаданы вышэй час завіталі ў Глыбокае набыць завушніцы. У выніку: завушніцы – жонцы, тэлевізар – мужу.

14 кастрычніка ва ўрачыстай абстаноўцы дырэктар магазіна Сяргей Сцежкін (на здымку – злева) ўручыў шчасліваму сямейству новы тэлевізар, які стаўся дарэчы. На цырымонію прыехала і журналіст докшыцкай раённай газеты «Родныя вытокі». Усё ж падзея і для Докшыцаў!

– І Глыбокаму вельмі пашанцавала, – кажа Аляксандр, – бо ёсць тут такі цудоўны ювелірны магазін як «Облик», а ў Докшыцах – няма! Ездзім у Глыбокае.









# Ñàâåò Ðýñïóáë³ê³ ïàäòðûìà¢ ðàòûô³êàöûþ ïàãàäíåííÿ ïàì³æ Áåëàðóññþ, Ëàòâ³ÿé ³ Ðàñ³ÿé àá âûçíà÷ýíí³ ïóíêòó ñòûêó äçÿðæà¢íûõ ìåæà¢

Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН

**15 кастрычніка Савет Рэспублікі ўхваліў законапраект аб ратыфікацыі пагаднення паміж урадамі Беларусі, Латвіі і Расіі аб вызначэнні пункту стыку дзяржаўных межаў трох краін.**

Знаёміў з дакументам парламентарыяў намеснік старшыні Дзяржпагранкамітэта Дзмітрый Шугай. Пагадненне было падпісана ў Мінску 28 студзеня 2010 года.

Для вызначэння і ўстанаўлення дакладнага размяшчэння пункту стыку трох межаў на мясцовасці Беларусь, Латвія і Расія створаць сумесную камісію. Ёй будзе даручана правесці шэраг мерапрыемстваў, уключаючы ўстаноўку пагранічнага знака,распрацоўку парадку яго ўтрымання, падрыхтоўку дэмаркацыйных дакументаў.

У адпаведнасці з пагадненнем месцазнаходжанне пункту стыку павінна быць паказана на карце раёна стыку дзяржаўных межаў, якая падпісваецца бакамі і з'яўляецца неад'емнай часткай пагаднення.

Пункт стыку межаў Беларусі, Латвіі і Расіі будзе знаходзіцца ў месцы зліцця рэкНяверыца і Сінюха, непадалёк ад вёскі Гаўрыліна (Верхнядзвінскі раён Віцебскай вобласці).

# Íà Â³öåáø÷ûíå àäêðûë³ñÿ øýñöü êàìï'þòàðíûõ êëóáà¢ äëÿ ³íâàë³äà¢ ïà çðîêó



**У шасці гарадах Віцебскай вобласці Віцебску, Лепелі,Докшыцах, Шаркаўшчыне, Оршы і Полацку 15 кастрычніка, у міжнародны дзень"Белага кія", пачалі працу камп'ютарныя клубы для інвалідаў па зроку.**

Як паведаміў БелаПАН старшыня Віцебскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання "Беларускае таварыства інвалідаў па зроку" ("БелТІЗ") Аляксандр Дубко, у камп'ютарных клубах для невідушчых людзей усталяваны адаптаваныя для інвалідаў па зроку праграмы, пры дапамозе якіх яны змогуць карыстацца камп'ютарам і інтэрнэтам. Усе паслугі ў гэтых клубах бясплатныя. У віцебскім клубе ўстаноўлены чатыры камп'ютары з праграмай Jaws, якая перакладае тэкставую інфармацыю ў гукавую. Адзін з камп'ютараў мае клавіятуру са шрыфтам Брайля.

Навучанне камп'ютарнай грамаце інваліды па зроку праходзяць у Віцебскімаддзяленні рэабілітацыі. Штомесяц навыкі працы на камп'ютары атрымліваюць каля дзесяці чалавек. Сярод іх не толькі маладыя, але і пажылыя людзі. Як адзначыў Дубко, гэтае аддзяленне рэабілітацыі інвалідаў, якое адкрылася ў 2008 годзе,пакуль у Беларусі з'яўляецца адзіным.

15 кастрычніка ў віцебскім клубе, які размясціўся ў офісе абласнога аддзялення"БелТІЗ", невідушчыя людзі змаглі пазнаёміцца з працай праграмы Skype: пры дапамозе яе яны размаўлялі са сваімі калегамі і сябрамі з Беларусі і Швецыі.Дзякуючы Skype, на дыялог з віцебскімі інвалідамі выйшлі намеснік старшыні цэнтральнага праўлення "БелТІЗ" Міхаіл Антоненка, дырэктар аршанскага прадпрыемства "Элуіз" ГА "БелТІЗ" Анатоль Гулевіч, партнёр са шведскага горадаХапаранда Стыг Хэдланд і інш.

Затым да сураэмоўніцтва на адлегласці падключыўся старшыня камітэта па працы, занятасці сацыяльнай абароне Віцебскага аблвыканкама Міхаіл Ляшчынскі. Праз Skype ён гутарыў з прадстаўніком Аршанскай раённай арганізацыі ГА "БелТІЗ" і паабяцаў дапамагчы ў вырашэнні праблем, з якімі сутыкаюцца інваліды ў гэтым рэгіёне. У прыватнасці, гэта цяжкасці з працаўладкаваннем і набыццём сродкаў рэабілітацыі. Чакаецца, што на працягу 2010 года клубы камп'ютарнай тэхнікі для невідушчых будуць створаны на базе тэрытарыяльных цэнтраў сацыяльнага абслугоўвання ва ўсіх раёнах Віцебскай вобласці.

Â³öåáñê³ ðà¸í

# Ç ÇÀÃÑà íà ðà÷íû òðàìâàé÷ûê

Станіслаў Раманчук

**Праз чвэрць стагоддзя абласны цэнтр Віцебск зноў стаў судаходным горадам на Заходняй Дзвіне.**

Урачыстая цырымонія спуску на ваду пад гукі духавога аркестра аднайменнага прагулачнага цеплахода са шведскім амаль бясшумным рухавіком стала вельмі запамінальнай для мясцовай маладой сям'і Алены і Аляксея Каралёвых. Пасля рэгістрацыі іх шлюба маладыя і іх родныя сталі пасажырамі другога спецыяльнага рэйса-падарунка ад гарадскіх улад. Аналагаў сучаснага рачнога трамвая, выробленага ў Пінску, даўжынёй 28 метраў і вышынёй асадкі ў ваду толькі 55 сантыметраў пакуль у Беларусі няма. На судне акрамя прасторнай палубы ёсць кают-кампанія з барам, тэлевізарам і кандыцыянерам. Каб падарожжа па вадзе стала бяспечным для 60 пасажыраў, прыйшлося сёлета з мелкаводных участкаў ракі вывезці 35 тысяч тон пяску. Пакуль у абласным цэнтры пабудавалі 3 прычалы, а працягласць першага па ліку маршрута складае 5 км. Новы цеплаход сёлета будзе хадзіць па рацэ да наступлення халадоў. У перспектыве такіх рачных суднаў прыбавіцца, а затым ёсць задума прадоўжыць турыстычны маршрут аж да Полацка з прыпынкамі ў Бешанковічах і Уле. Карыстацца новым відам транспарту і любавацца прыродай будуць усе жадаючыя, бо білеты на цеплаход вырашана зрабіць даступнымі.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Âîïûò, âàðòû ïåðàéìàííÿ

Кастусь Александровіч

**Далёка не кожны раён краіны, як Пастаўскі, мае неабходную базу для правядзення аздараўленчых заняткаў і спартыўна-масавых мерапрыемстваў, развіцця турызма.**

Невыпадкова тут днямі прайшла выязная калегія работнікаў гэтай галіны Віцебскай вобласці. Штогод мясцовы райспорткамітэт арганізуе і праводзіць каля 130 розных спаборніцтваў, у раёне працуюць ужо 15 аграсядзіб, а турмаршрут "У гасцях у Зюзі Паазерскага" стаў шырока вядомы і папулярны ў Беларусі. Сёлета толькі за 9 месяцаў ад аказання аздараўленчых паслуг насельніцтву тут атрымалі 328 млн. рублёў. Сваім калегам з усіх куткоў вобласці пастаўчанам было што паказаць і чым падзяліцца. Добрыя ўражанні засталіся ад новых спарткомплексаў Дунілавіцкай СШ, мясцовага прафтэхкаледжа, стадыёна ПМЦ і басейна ў фізкультурна-аздараўленчым комплексе аднаго з мікрараёнаў райцэнтра. Пастаўчане таксама штогод узводзяць розныя спортпляцоўкі для дзяцей, арганізуюць на канікулах спартакіяду. Падчас плянарнага пасяджэння такая праца атрымала высокую ацэнку, а пастаўскі вопыт было даручана распаўсюдзіць.

Øàðêî¢ø÷ûíñê³ ðà¸í

# Ðîäíû êóò çà¢ñ¸äû ì³ëû

Чэслаў Якубовіч

**Услед за іншымі малымі гарадкамі краіны апошнім часам стала проста не пазнаць і райцэнтр Шаркаўшчыну.**

Хоць гэтае буйное ў мінулым мястэчка было заснавана, як устанавілі даследчыкі, некалькі стагоддзяў таму назад, статус гарадскога пасёлка яно атрымала толькі перад вайной, восенню 1940 года. З гэтай нагоды тут спецыяльна арганізавалі і правялі днямі свята свайго гарадка. Усё пачалося суботняй раніцай з вялікага восеньскага кірмаша, на якім, акрамя разнасолаў на зіму, у шырокім асартыменце былі прадстаўлены саджанцы, бульба, зерне, прамысловыя тавары і кулінарныя прысмакі. Затым у другой палове дня ўрачыстасці перамясціліся ў абноўлены раённы Дом культуры. Ганаровым госцем свята ў Шаркаўшчыне стаў знакаміты беларускі ансамбль "Сябры", які парадаваў прыгожымі лірычнымі песнямі на роднай мове. Хоць і няма ў гарпасёлку буйных прамысловых прадпрыемстваў, але яго жыхары любяць і шануюць свой утульны гарадок. Стала традыцыяй агульнымі намаганнямі рэканструяваць і абнаўляць кожны год хоць адзін значны аб'ект сацыяльнай сферы. Нарэшце сёлета наблізіўся да завяршэння даўгабуд – новая цэнтральная раённая бальніца, узводзіць якую пачалі яшчэ ў 1997 годзе. Яшчэ летась заклалі ў гэтай мясцовасці вялікую каштанавую алею, было высаджана амаль 5 тысяч маладзенькіх дрэўцаў.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер21.10.10 | | | | пятн. 22.10.10 | | | | сб. 23.10.10 | | | | нядз. 24.10.10 | | | | 25.10.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +3 | +4 | +6 | +4 | -2 | +1 | +5 | +3 | -1 | 0 | +5 | +4 | 0 | +1 | +8 | +4 | +1 | +4 | +9 |
| Ціск, мм | 739 | 739 | 738 | 738 | 742 | 740 | 739 | 743 | 748 | 750 | 749 | 749 | 750 | 750 | 750 | 750 | 751 | 750 | 749 |
| Вільготнасць, % | 94 | 96 | 83 | 81 | 81 | 90 | 74 | 74 | 91 | 94 | 74 | 82 | 89 | 91 | 63 | 83 | 93 | 94 | 73 |
| Вецер м/сек | Ю 2 | Ю 3 | З 5 | Ю-З 5 | З 5 | Ю-З 8 | Ю-З | З 6 | З 2 | Ю-З 5 | Ю-З 10 | Ю-З 6 | Ю-В 4 | Ю 4 | Ю 7 | Ю 5 | Ю-В 4 | Ю 5 | Ю 8 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**У ходзе рабочага візіту ў КНР беларускаму боку ўдалося падпісаць пакет дакументаў на рэалізацыю сумесных праектаў коштам 3,5 млрд. $. Інфармацыйная вайна паміж афіцыйным Мінскам і Крамлём набірае вострыя абароты. Палітыку расійскага кіраўніцтва назвалі ў нас “безмозглой”, а ў адказ Прэзідэнт РФ упершыню прама сказаў аб палітычных знікненнях людзей у Беларусі і зрабіў намёк аб праблемах са свабодай і дэмакратыяй. Беларусь падпісала з Літвой доўгатэрміновы дагавор аб транзіце венесуэльскай нафты праз Клайпедскі марскі порт. На працягу года плануецца перавезці адтуль каля 2,5 млн. тон нафты.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Францыя.** Прэзідэнт ПАСЕ М. Чавушоглу заявіў, што пазітыўных крокаў з боку Беларусі ў накірунку Савета Еўропы няма, РБ – адзіная краіны, якая ў ім не прадстаўлена.

**Венгрыя.** На ліквідацыю наступстваў аварыі на алюмініевым заводзе краіне спатрэбіцца больш за год і дзясяткі млн. долараў, новае жыллё патрабуецца 7 тысячам пацярпелых.

**Чылі.** На два месяцы раней, чым планавалася, удалося падняць гарнякоў, замураваных 5 жніўня ў шахце Сан-Хасэ, але спачатку людзям перадалі спецыяльныя акуляры.

**Украіна.** Па новых, змешаных правілах пройдуць у краіне ў канцы месяца мясцовыя выбары. Канстытуцыйны суд змяніў форму кіравання і адмяніў палітрэформы 2004 года.

**Кітай.** Кіраўніцтва краіны вельмі нервова адрэагавала на факт прысуджэння Нобелеўскай прэміі за 2010 год палітзняволенаму, вучонаму Лю Сяобо. Ён асуджаны на 11 год.

**Афганістан.** Улады краіны ўступілі ў сакрэтныя перамовы з рухам “Талібан” наконт спынення шматгадовай вайны, раней ісламісты катэгарычна адмаўляліся ад гэтага.

**Расія.** Услед за Прэзідэнтам Дзярждума РФ у сваёй заяве абвінавіціла кіраўніцтва Беларусі ў антырасійскай рыторыцы падчас перадвыбарнай кампаніі.

**Туркменія.** Прэзідэнт Г. Бердымухамедаў паабяцаў спажыўцам краін Еўрасаюза значнае павелічэнне паставак туркменскага газу, яго запасы складаюць 18 трлн. кубаметраў.

**ЗША.** Кампанія Gooqle правяла паспяховыя выпрабаванні тэхналогій язды аўтамабіляў без вадзіцеляў пры дапамозе відэакамер, радараў і лазерных дальнамераў назірання.

**Бразілія.** Вялікія шанцы стаць у 2-м туры першай жанчынай-Прэзідэнтам краіны мае Дзілма Русефф. Былому лідару Канстытуцыя не дазволіла ісці на выбары на 3-ці тэрмін.

**Японія.** Золатавалютныя рэзервы краіны дасягнулі рэкорднага ўзроўню – 1 трлн. 110 млрд. долараў, японская эканоміка застаецца па магутнасці другой у свеце пасля ЗША.

**Літва.** З-за рознагалоссяў дэпутатаў у парламенце да вясны 2011 года адкладзена пытанне аб паступовым, на 2-3 месяцы штогод, павелічэнні пенсійнага ўзросту ў краіне да 65 гадоў.

**Англія.** Больш за 250 тысяч відаў істот у акіянах і морах свету ўнеслі вучоныя ў 1-ы “Перапіс марскога жыцця”, з іх - каля 6 тысяч новых марскіх жывёлін і рыб.

**ЗША.** З-за праліўных дажджоў змыла ў раку каля 100 тысяч сабраных на ферме ў Вермонце спелых гарбузоў, якія не дачакаліся транспарту для іх адвозкі заказчыкам.

**Украіна.** Каб зменшыць ценявы абарот спіртнога, урад вырашыў узняць мінімальныя цэны на гарэлку на 40%, яе забараняць прадаваць танней, чым за 20,4 грыўны ( 8 тыс. рублёў).

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** З-за дрэнных умоў паставак нафты з РФ, як прызнаў міністр фінансаў РБ А. Харкавец, дзяржбюджэт Беларусі не атрымае сёлета 2,6 трлн. рублёў (каля 1 млрд. $).

**Гродна.** Прыгарадны раён атрымаў самую высокую ў РБ ураджайнасць бульбы – 330 ц/га, “другі хлеб” найлепей вырас у вобласці, з гектара атрымалі па 245 цэнтнераў клубняў.

**Мінск.** Экс-старшыня Нацбанка РБ С. Багданкевіч пацвердзіў, што ў 2011 годзе ўлады змогуць утрымаць курс рубля, але з дапамогай новых займаў і продажу дзяржуласнасці.

**Бабруйск.** Мясцовая піваварная кампанія “Сябар” атрымала дазвол з Галандыі насіць новую назву “Піваварні Хайнекен”, адной з вядучых фірм свету ў гэтай галіне напояў.

**Брэст.** Кіраўнік вобласці К. Сумар на прэс-канферэнцыі прызнаў фальсіфікацыю на прэзідэнцкіх выбарах 2006 года, тады на 16 тысяч зменшылі колькасць галасаваўшых.

**Мінск.** Пасля зыходу з выбараў С. Гайдукевіча сацапытанні зафіксавалі невялікае падзенне рэйтынгу А. Лукашэнкі ( з 48,6 да 43,6 %), але ён блізкі да перамогі ў 1-м туры.

**Асіповічы.** У канцы года пачне выпуск прадукцыі новы завод сінтэтычных мыйных сродкаў і бытавой хіміі, яго ўзвядзенне завяршае прыватная фірма “Рэнесанс Капітал”.

**Барысаў.** На мясцовым абаронным заводзе пачаліся работы па мадэрнізацыі танкаў Т-72Б за кошт паляпшэння сістэм кіравання агнём і прымянення новага тыпу боеприпасаў.

**Мінск.** Не будаваць новыя, а пераносіць у гарады пустуючыя драўляныя касцёлы з сельскай мясцовасці прапанаваў мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Т. Кандрусевіч.

**Гродна.** Ганаровым прафесарам дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы стаў сусветна вядомы польскі рэжысёр Кшыштаф Занусі, ён прачытаў тут сваю лекцыю і адказаў на пытанні.

**Маларыта.** Больш за 200 спелых смачных кавуноў айчыннай селекцыі вагой па 16 кг і болей паспеў вырасціць да халадоў на сваім участку жыхар вёскі Збураж Сяргей Асіпук.

**Гомель.** Апаўшае лісце ў горадзе пачалі збіраць пры дапамозе спецыяльных паркавых пыласосаў магутнасцю 10 куб/гадзіну, іх вытворчасць наладзілі ў Бабруйску.

**Асіповічы.** Жыхароў райцэнтра шакіравала дзікае забойства 17-гадовым сынам свайго 39-гадовага бацькі. Забойца моцна яго збіў і вынес з кватэры паміраць у пад’езд дома.

**Гродна.** У горадзе выпусцілі ўнікальныя сувеніры-магніцікі на халадзільнік у выглядзе крэсла з цвіком і подпісам “А можа, так і трэба?”– пра ментальнасць беларусаў з анекдота.

**Мінск.** У знак павагі да Беларусі на свяце 300-годдзя архікатэдральнага касцёла пасланнік Ватыкана кардынал Юзаф Томка ўсё казанне ў храме прамовіў на беларускай мове.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Ужо больш за 23 тысячы жыхароў вобласці прыйшлося паставіць на ўлік да нарколагаў як злосных алкаголікаў, колькасць “ціхіх” п’яніц у шмат разоў большая.

**Глыбокае.** На мясцовым МКК рыхтуюцца да запуску лініі па разліве стэрылізаванага малака ў сучасныя тэтра-пакеты ў рамках праграмы тэхпераўзбраення камбіната.

**Віцебск.** Позна вечарам на чыгуначным вакзале міліцыянеры затрымалі 15-гадовага школьніка са Смаленска, які збег у Беларусь і знік без вестак пасля сваркі з бацькам.

**Дуброўна.** У другі раз з поспехам прайшоў у райцэнтры конкурс прыгажосці сярод замужніх жанчын, прысвечаны здароваму ладу жыцця.

**Віцебск.** Пры перадачы грошай міліцыя затрымала групу злачынцаў, якія пазычылі старшыні сельсавета 200 $, а потым пагрозамі вымагалі ў яго значна большую суму.

**Сянно.** Рэкордны ўраджай па 8 ц ільновалакна з 650 га пасеваў з чэшскіх сартоў удалося атрымаць працаўнікам мясцовага льнозавода, хоць ён і не ўключаны ў праграму “Лён”.

**Докшыцы.** Праз суткі пасля складання на яго пратаколу за парушэнне правілаў супрацьпажарнай бяспекі згарэў на падпітку пасля курэння жыхар раёна.

**Віцебск.** За двое сутак даставілі ў горад з суднабудаўнічага завода ў Пінску новы прагулачны цеплаход пад назвай “Віцебск” вагой 70 тон на 50 месцаў для пасажыраў.

**Гарадок.** Па размеркаванні на працу ў райбальніцу прыехалі яшчэ 10 ўрачоў і медсясцёр, штат укамплектавалі, але ў райпаліклініку на 148 пацыентаў штодзень іх прыходзіць каля 300.

**Віцебск.** У абласным краязнаўчым музеі адкрылася выстава “Памятаю. Катынь 1940” пра адно са злачынстваў сталінскага рэжыму– масавага забойства палонных польскіх афіцэраў.

**Полацк.** Пры аказанні дапамогі суседу па каналізацыйнай траншэі трагічна загінуў днём пад слоем абваліўшайся раптам зямлі 32-гадовы жахар вёскі Тросна.

**Талачын.** Раённы суд пакараў двух браканьераў за незаконную лоўлю рыбы сеткамі 3-ма гадамі турмы кожнаму з адтэрміноўкай прыгавора на 2 гады і штрафам 19,4 млн. рублёў.

**Віцебск.** Польскае пасольства падзякавала ўладам горада за дапамогу і прыём пасажыраў з няспраўнага самалёта дэлегацыі на чале з першай ледзі Польшчы Анай Камароўскай.

**Верхнядзвінск.** У цэнтры горада каля касцёла св. Багародзіцы знайшлі буйны скарб з амаль 400 старажытнымі манетамі рознага наміналу, датаванымі 1557-1564 гадамі часоў ВКЛ.

**Віцебск.** У лесапаркавую зону мікрараёна Білёва паэтапна пачне перасяляцца гарадскі заапарк, дзе будуць вальеры і для зуброў. Тысячы звяроў цяпер цясняцца ў цэнтры горада.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

## Лічба нумара

# 100000

– столькі тон бульбы, па разліках Мінсельгасхарча, зможа прадаць Беларусь да канца года на экспарт. За савецкім часам беларусаў жыхары іншых рэспублік справядліва называлі “бульбашамі”, і падобна на тое, што цяпер наступаюць ранейшыя спрыяльныя часы для гэтай культуры. Для параўнання, у мінулым годзе наша краіна за мяжу змагла прадаць толькі 28,2 тысячы тон бульбы і зарабіць на такіх пастаўках толькі 6 млн. долараў.

Няхітрыя разлікі паказваюць, што сёлета значна больш спрыяльная кан’юнктура, попыт на клубні высокі, асабліва з боку расійскіх спажыўцоў. Цяпер у Расію айчынныя клубні пастаўляюцца па цане 1300 рублёў за 1 кг, і нашы суседзі папрасілі аб зніжэнні цэн на беларускую бульбу. Аднак беларускае кіраўніцтва на такую просьбу адрэагавала адмоўна, паколькі на рынку высокі попыт на каштоўны прадукт харчавання, любімы ў многіх сем’ях суайчыннікаў.

Былі дадзены ўказанні да сярэдзіны месяца бульбу сабраць, пакласці на захоўванне не ў бурты (дагэтуль з-за такіх умоў там прападала да 30-40% вырашчанага ўраджаю), а ў капітальныя сховішчы. Не будуць браць цяпер– можна прадаць клубні і пасля навагодніх святаў, і нават вясной. У прынцыпе, гэта правільна. Але сёлета ў беларускіх калгасах пад вырошчванне бульбы адвялі на 2 тысячы гектараў меней, чым летась, – усяго 49 тысяч га.

Цяжка было прадбачыць сёлетнія прыродныя ўмовы ў суседзяў і такі шалёны попыт. Разам з тым на працягу апошніх 10 гадоў пасевы бульбы ў нас імкліва скарачаліся. У адрозненне ад калектыўных гаспадарак, “другі хлеб” больш актыўна вырошчвае насельніцтва на сваіх “сотках”. Аднак з-за старэння такіх гаспадароў палеткі з бульбай у прысядзібных гаспадарках скараціліся з 2000 года з 564 да 330 тысяч гектараў. А ў пачатку новага стагоддзя беларускія калгасы вырошчвалі яе на 97 тысячах га.

Радуе, што ў нас у гэтым годзе сярэдняя ўраджайнасць бульбы вышэйшая па Беларусі за апошнія 6 гадоў і дасягае пакуль у грамадскім сектары 188 ц/га. Аднак няма яшчэ дадзеных аб ураджайнасці на надзелах насельніцтва, дзе ўвесь час яна была вышэйшая, чым у грамадскім сектары. З-за ўзнікшага спажывецкага ажыятажу, асабліва на расійскім рынку, попыт на беларускую бульбу ўсё ўзрастае і загружаныя пад завязку фуры ідуць туды з Беларусі вялікім патокам.

Цікава ведаць, што наша краіна – абсалютны лідар у СНД па вырошчванні бульбы на душу насельніцтва (паказчык мінулага, не самага спрыяльнага года – 737 кг, на другім месцы ўкраінцы – 433 кг, а ў Расіі – толькі 216 кг). У гэтым годзе беларусы ад такіх паставак за мяжу змогуць рэальна зарабіць ужо 20 млн. долараў, а ўсяго сабраць 8,2 млн. тон бульбы. Гэта, канешне, ніжэй паказчыкаў самага ўдалага для нас 2004 года, калі беларусы атрымалі амаль 10 млн. тон бульбы.

Як бачна, займацца вырошчваннем бульбы цяпер стала выгадна, і кіраўнікі краіны сталі гаварыць аб магчымасці выйсці ў бліжэйшыя 5 гадоў на яе экспартныя пастаўкі ў аб’ёмах да 1 млн. тон. Аднак спецыялісты папярэджваюць аб асцярожнасці ў такіх прагнозах. Па-першае, няма гарантыі, што такі высокі попыт на бульбу захаваецца ў бліжэйшы час. На жаль, старэе наша вясковае насельніцтва, моладзь у аграгарадках не вельмі жадае абцяжарваць сябе дадатковымі клопатамі – у гэтым сектары вырошчванне клубняў і далей будзе зніжацца.

Якасць і ўраджайнасць беларускай бульбы з калгасных палёў і зараз горшая, чым у прыватнікаў. Не так лёгка пераключыцца гаспадаркам больш актыўна вырошчваць гэты прадукт, бо няма належнай сучаснай тэхнікі для вырошчвання, догляду і ўборкі і тых жа якасных і прадукцыйных гатункаў. Калі многа прададзім сёлета, то пад пагрозай застанецца забеспячэнне ўнутраных патрэб, якія даволі значныя, у межах 7-8 млн. тон. Сёння з бульбы можна прыгатаваць сотні самых разнастайных і смачных страў, яна па-ранейшаму незаменны і любімы прадукт харчавання ў рацыёне большасці беларусаў.

*У працяг тэмы, распачатай у «ВГ» №27 (535), № 28 (536), №30 (538) 29, №31 (539), № 32 (540) , № 34 (542), № 35 (543), №36 (544), 38 (546), 39 (547), 40 (548); 41 (549) за 2010 год.*

# Ігнапаль
## і яго ваколіцы

**Генадзь Комель**

Ды яшчэ якая гвардыя: па прапанове Мяркулава – 91 чалавек, разведаддзела Галоўнага упраўлення дзяржаўнай бяспекі – 47 чалавек, па тэлефонных званках другіх асоб – 167 чалавек.

Будова гэтай групы была па схеме. У школах пры паралельных класах клас "А" – гэта эліта для заездждых праверак школ. Падчас вайны першы батальён, першая рота, узвод, аддзяленне ў кожнай ВЧ – гэта рэзервы запасных, падрыхтаваных людзей для тэрміновага папаўнення выбыўшых з другіх падраздзяленняў. І асабовы партызанскі атрад НКУС для тэрміновага вырашэння лёсу дзяржавы і асобных людзей.

Як сцвярджае Н.С. Лебедзева (Інстытут агульнай гісторыі РАН), група Берлінга падпарадкавала сябе ўраду СССР без усялякіх умоў, таму што была пераканана ў непазбежнасці вайны з Германіяй.

Групу Берлінга ўладкавалі на "спецдачы № 20" пад Масквой у Малахаўцы, дзе яны да красавіка 1943 года вывучалі статуты розных армій. Лагічна можна дапусціць, што выконвалі некаторыя даручэнні тых асоб, якія прапанавалі іх у гэтую групу – "кто платит, тот и заказывает музыку".

У сувязі з пагаршэннем адносін СССР з урадам Сікорскага (вывад войск Андэрса ў Іран, удзел урада Сікорскага у нямецкай камісіі па пытанні растрэлаў у Катыні) востра паўстала пытанне па стварэнні органа, лаяльнага Крамлю і выступаючага ад імя палякаў. У сярэдзіне лютага 1943 года Сталін у перамовах з Вандай Васілеўскай, Г. Мінцам і В. Грошам дамовіліся аб стварэнні вайсковага фарміравання пад камандаваннем Берлінга.

Зыгмунд Хенрык Берлінг (27.04.1896, Лімanава – 11.07.1980) уступіў у легіён Пілсудскага у 1914 годзе. У Аўстрыі былі афіцыйна дазволены ваенізаваныя арганізацыі. Тайна ўзначальваў "стралковы саюз" Пілсудскі. Берлінг з чэрвеня 1917 да кастрычніка 1918 служыў у аўстра-венгерскай арміі. Падчас савецка-польскай вайны за абарону Львова ўзнагароджаны орднам Віртуцці Мілітары. У 1923 г. атрымаў званне маёра, а ў 1930 – падпалкоўніка. Звольніўся з арміі ў чэрвені 1939 г. У Вільні быў арыштаваны НКУС. Пасля дагавору Сікорскага – Майскага 17 жніўня 1941 года вызвалены з турмы і прызначаны начальнікам штаба 5-й дзівізіі. У сакавіку-кастрычніку 1944 года камандзір польскай арміі у СССР. Пасля няўдалай аперацыі на Вісле ў кастрычніку 1944 г. быў накіраваны ў Маскву на вучобу.



**Кастусь Акула (Аляксандр Качан), жаўнер 8-ай Брытанскай арміі, 2-гі Польскі корпус генерала У. Андэрса. Нарадзіўся ў в. Верацеі каля Крулеўшчыны. Беларускі эміграцыйны пісьменнік.**



**Віктар Сянкевіч (Сенькавец), жаўнер 8-ай Брытанскай арміі, 2-гі Польскі корпус генерала У. Андэрса. Нарадзіўся ў в. Гірстуны пад Глыбокім. Беларускі эміграцыйны гісторык, колішні дыктар Радыё Свабода.**

**Жыве ў Сан-Францыска.**

У 1947 годзе вярнуўся ў Польшчу. У наступным годзе прызначаны начальнікам акадэміі Генеральнага штаба Войска Польскага.

1963 – 1956 гг. – намміністра, а ў 1956 – 1957 міністр сельскай гаспадаркі. З 1957 па 1970 гг. – галоўны інспектар аховы лясной гаспадаркі.

У снежні 1943 года была ўтворана падпольна Краёвая Рада Народова на чале з Баляславам Берутам. За «польскім часам», калі Берут быў камандзірам роты, мой бацька быў яго ардынарцам.

Аляксандр Арлоў, старшыня клуба "Пошук" беларускага грамадскага аб'яднання калекцыянераў, падводзячы вынікі бою пад Леніна, якім камандаваў Берлінг, сказаў: "Дывізія Касцюшкі вывела са строю 1478 гітлераўцаў. Страты дывізіі Касцюшкі – 3054 чалавекі (памерлі ад ран – 510, атрымалі раненні 1776, прапалі без звестак – 652, папалі ў палон – 116)". Гэта ўсяго за двое з паловай сутак баёў.

### Рэха Монтэ-Касіна ў Глыбокім

Як я йшоў да гэтай тэмы? Я лічу, што чым больш выказалася людзей наконт любой большменш значнай падзеі, чым больш пастаўлена пытанняў і дадзена рознабаковых адказаў, тым больш выйгрыш атрымоўваецца ў асвятленні гэтай падзеі. Вось я й хачу ставіць пытанні, падштурхоўваць людзей адказваць на іх, мо яны зробяць больш, чым я, бо я за свае амаль 80 год нічога не зрабіў таму, што, як і ўсе, лічыў сябе "маленьким чалавекам"– няхай выказваюцца прафесары ды акадэмікі! Але, дзякуй Богу, на старасці зразумеў, што маленькіх людзей няма, а ёсць наша вялікае хамства ў адносінах да іх. Выказвайцеся, людзі, бо чарапная каробка можа трэснуць ад перагрузкі: не бярыце грэх на душу ў адносінах да сябе і да людзей.

Памятаю, як працаваў кінамеханікам у вёсцы Папшычы (калгас "Шлях да камунізму", старшыня Канапелька Саўка). Удзельнічаў у самадзейнасці. Раённы фестываль праводзіўся ва ўрочышчы Барок. Раённую школьную спартакіяду праводзілі на стадыёне ў Глыбокім. Адзіную ў той час сярэднюю школу – Залескую – я скончыў першым выпускам у 1953 годзе. Які быў час усеагульнай радасці і весялосці, што мы перамаглі фашысцкую навалу і ідзём у светлую будучыню, у камунізм. Маё пакаленне, зразумела, ведаць не магло, а франтавікі – адзін з пары соцен згадваўся, на якой зямельцы праводзяцца фестывалі ды спартакіяды. Іх можна зразумець, бо для кожнага асабіста гэта была такая дробязь у параўнанні з тым, што ён перажыў. Праўда, у кагосьці сэрца зашчымела, і самадзейнасць перамясцілі ў Лаўрынаўку ў пачатку 70-х. Будучы дырэктарам раённага Дому піянераў, восенню 1953 года я наведаў сірочы дом у тых мясцінах. Гэта быў прытулак сірот вайны. І калі адзін з іх запытаў, ці маю я бацьку і ці ёсць у яго галава, я збянтэжыўся. А вось у цяперашні момант мне сваімі старэчымі мазгамі так бы хацелася спытаць у таго "вумніка", якому спадабаўся назоў вёскі Русакі і яе забудовы, ці была ў яго галава, калі пасяліў ён там сірот, а другому даць дазвол на правядзенне раённага фестывалю, дарую́чы мне, на "парахавой бочцы". Свой назоў гэтых мясцін і хачу вытлумачыць у гэтым артыкуле.

Свой аповед распачынаю паводле скарочанага артыкула, надрукаванага ў кнізе "Память" Глыбоцкага раёна з кнігі "Нельзя простить" Михайлова В.В. и Романовского В.Ф., Минск, 1967, стр. 26 – 31. Гэтую кнігу пакуль я не знайшоў. Калісьці Юрыя Аляксандравіча Сабалеўскага, свайго земляка, спрабаваў, так бы мовіць, разгаварыць на гэтую тэму, але дарэмна! Як выспела задума напісаць гэты артыкул, патэлефанаваў у архіў КДБ з пытаннем, дзе пахаваны італьянцы ў Мінску, мне адказалі: "Шукайце ў адкрытых крыніцах, бо гэтых звестак выдаць Вам не маем права". Дарэчы, мо я не зусім дакладна перадаў той адказ, бо не здагадаўся ўключыць магнітафон. Валаховіч Анатоль Іосіфавіч сказаў, што дзесьці ёсць пахаванні нязначныя, але дзе дакладна, не ведае. Шаркоў Анатоль Васільевіч (Вышэйшая акадэмія міліцыі) адказаў, што ведае пахаванні і перазахаванні ў Барысаве.

З дзённіка Юрыя Аляксандравіча Сабалеўскага: "Другога студзеня 1944 года у Беразвечча прыгналі 1000 а мо й больш абяззброеных італьянцаў. 5.01.1944 будуюць каля вёскі Станулі супрацьтанкавыя ўмацаванні. 5.01.1944 года прыбылі яшчэ 500, 22.02.44 прыбыло зноў 500 італьянцаў. 27.02.44 яны праводзілі земляныя работы на ўчастку вёсак Лаўрынаўка – Барыкоўшчына. 13.03.1944 года гэтыя мясціна абнесены калючым дротам, насельніцтва эвакуявана". Самае старажытнае паселішча на Глыбоччыне – Беразвечча – ў пісьмовых крыніцах упамінаецца на пачатку 14 стагоддзя. З пачатку 14 ст. і да паўстання 1831 года росквіт Беразвечча і яго заняпад пасля паўстання заслугоўвае добрай кнігі. З 1920 па 1939 гады ў Беразвеччы размяшчаўся полк польскіх пагранвойск. У 1939 – 1941 гг. створана турма НКУС. У верасні 1941 годзе немцы тут стварылі лагер смерці "Шталаг №351".

У канцы 1943 года ў лясістай зоне вёсак Русакі, Лаўрынаўка, Мікулічы, Арэхаўна, Барыкоўшчына пачала разгортвацца тылавая база арміі Рэйнгардта. У зоне гэтых вёсак былі зроблены адмысловыя грунтовыя дарогі і інжынерная маскіроўка сеткі падземных сховішчаў. Снарады эшалонамі прыбывалі на чыгуначную станцыю Глыбокае і машынамі за 20 хвілін дастаўляліся ў падземныя сховішчы.



**Айцец Аляксандр Надсан (сапр. Бочка) нарадзіўся 8 жніўня 1926 г. у м. Гарадзея пад Нясвіжам у сям'і настаўнікаў. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1943) і курсы кіраўнікоў Саюза беларускай моладзі. З 1944 — на эміграцыі. Удзельнік Руху Супраціўлення ў Францыі. Ваяваў у 2-м Польскім корпусе генерала Андэрса, паранены ў бітве пад Монтэ-Касіна (Італія).**

**Заснавальнік і кіраўнік Беларускай бібліятэкі і музея ім. Ф.Скарыны ў Лондане (з 1971). Кіраўнік беларускае каталіцкае місіі ў Вялікабрытаніі (з 1981). Апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў у замежжы (з 1986). Старшыня Беларускага камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі ў Вялікабрытаніі (з 1989). Жыве ў Лондане.**

У траўні 1944 года савецкія начныя бамбардзіроўшчыкі зрабілі налёт на гэтую базу. Я добра памятаю тую ноч, як павольна на парашутах апускаліся асвятляльныя ракеты. Немцы не рызыкнулі падняць на перахват знішчальнікі з аэрадрома вёскі Сітцы, каля Параф'янава, а перагналі іх на аэрадром за мястэчкам Лужкі. Зенітная артылерыя маўчала. Але прыцэльнай бамбардзіроўцы перашкодзіў густы туман.

Сведкі, якія згадваюцца ў кнізе "Нельзя простить": Яніна Іосіфаўна Савіцкая, якая падчас вайны жыла ў вёсцы Арэхаўна, сцвярджала, што італьянцы будавалі падземныя склады; І.С. Германовіч, які працаваў сумесна з італьянцамі на пякарні ў вёсцы Арэхаўна, сцвярджаў, што італьянцы будавалі падземныя склады і лінію абароны.

Схему– архіўны дакумент, замацаваны пячаткай,– я прапаную чытачам.

Іван Гаўрылавіч Кухта, які пражываў у Глыбокім па вуліцы Карла Маркса, 45, добра памятае, што першы эшалон з італьянцамі прыбыў у Глыбокае ў канцы 1943 года. Усе згаданыя сведкі і наогул старажылы Глыбокага сцвярджаюць, што падземныя склады не былі вывезеныя, а толькі былі пашкоджаны ўваходы ў іх узрывамі сапёраў. Вось адкуль мой назоў "Парахавая бочка". Яшчэ і ў сучасныя дні знаходзяць неразарваныя авіябомбы. У папярэдніх артыкулах я расказваў пра такі выпадак.

Івана Гаўрылавіча я добра ведаў, бо ён часта прыязджаў да мяне на хутар на сваім чырвоным "Іж-49". Ва Ўзрэцкай сямігодцы працавала настаўніцай Савошчык Соф'я Ізотаўна. Кіравала хорам у Пятроўшчынскім клубе, які быў пабудаваны па першым тыпавым праекце ў Беларусі ў пасляваенны час з уласным калгасным радыёвузлом, уласнай кінаўстаноўкай, зала на 220 месц, дзе два разы на тыдзень праводзіліся безбілетныя кінасеансы мастацкіх фільмаў. Камунізм у асобна ўзятым раёне СССР! Хочацца падрабязна расказаць аб падзеях тых дзён, ды рукі не даходзяць. Я будаваў той клуб, той камунізм, ведаю факты і факцікі ўсяго раёна ад А да Я.

Кухта І.Г. пазнаёміўся з Ізотаўнай на фестывалі самадзейнасці ў Барку. Драўляная сцэна для артыстаў знаходзілася на могілках італьянцаў. Гэта ў сучасны момант там стаяць два помнікі, створаныя Мікалаем Мікалаевічам Якавенкам.

*Працяг будзе*

**Кліменцій Кожан,**
*м. Германавічы.*

*Нашы землякі*

# Генадзь Цітовіч

## Да 100-годдзя з дня нараджэння

Справы на радыё ішлі добра, станоўча вырашалася пытанне аб штатных музычных калектывах і салістах. Абжывалася новая светлая кватэра, добра ладзіліся сямейныя справы. У Цітовічаў нарадзілася дачка Тацццяна, і Генадзь Іванавіч кожную вольную хвіліну стараўся забегчы дадому, каб лішні раз глянуць на малую дачку ці дапамагчы чым-небудзь Вользе Мацвееўне. І ён сапраўды быў шчаслівы, не ведаючы, што наперадзе яго і ўсіх, каго ён любіў, чакаюць цяжкія, пакутлівыя выпрабаванні.

Фашысцкая Германія канцэнтравала свае войскі на мяжы з Савецкім Саюзам. Неабходна было пакідаць горад. Генадзь Іванавіч з малой дачкой і жонкай рушыў на ўсход. Аднак адысціся далёка не ўдалося. Калі наблізіліся да Клецка, гарадок ужо быў заняты фашыстамі. Вользе Мацвееўне зрабілася дрэнна. Прыйшлося вяртацца ў Баранавічы. Даводзілася жыць выпадковымі заробкамі. Сям'я галадала. Аднойчы Генадзь Іванавіч сустрэў доктара Уладзіміра Лукашэню. Ён дапамог Генадзю і жонцы ўладкавацца на працу ў ляхавіцкую аптэку. Цітовічы дапамагалі партызанам лекамі.

Пачынаўся 1944 год, з кожным днём усё больш адчувалася набліжэнне перамогі над ворагам. Але нямецкая разведка не была такой бездапаможнай, як думалася Генадзю Іванавічу. У хуткім часе прыйшлося уцякаць з горада. Цітовічы апынуліся ў Навагрудку. Праз тыдзень партызанскі сувязны прыйшоў у Навагрудак і вывеў Цітовічаў з дзецьмі ў партызанскую зону. Неўзабаве савецкая армія вызваліла Беларусь ад нямецкіх акупантаў.

Баранавічы сустрэлі Цітовічаў пажарышчамі, калючым дротам і бетоннымі дотамі. Баранавіцкая радыёстанцыя аднаўляла сваю работу. Генадзь Іванавіч атрымаў прызначэнне на пасаду адказнага рэдактара "Апошніх паведамленняў". Пазней ён быў вызвалены ад абавязкаў рэдактара і прызначаны намеснікам начальніка абласнога аддзела мастацтваў, які ўзначальваў былы партызан Мікалай Шчансновіч.

Наведваючы розныя мясцовасці Беларусі, Генадзь Іванавіч чуў многа новых народных песень. Ён даўно марыў пра спецыяльныя фальклорныя падарожжы, абдумваў іх маршруты. За кароткі час у Генадзя быў сабраны велізарны матэрыял, яго ён абагуліў у дакладзе "Беларуская народная музычная практыка сёння", які прагучаў у Саюзе кампазітараў Беларусі. Майстры нацыянальнай музыкі былі ўражаны багаццем фактычнага матэрыялу, смелымі абагульненнямі, велізарнейшай эрудыцыяй дакладчыка. Свой даклад Генадзь Іванавіч рыхтаваў да Усесаюзнага конкурсу збіральнікаў фальклору.



Фальклорныя экспедыцыі, кансультацыі калектываў самадзейнасці, выезды для разнастайных выступленняў, дакладаў і лекцый займалі шмат часу. А між тым патрэбны быў час і на выкананне службовых абавязкаў намесніка начальніка абласнога аддзела мастацтваў. Праз нейкі час Генадзь Іванавіч перавёўся ў абласны Дом народнай творчасці на пасаду метадыстакансультанта. Цяпер усе яго бясконцыя падарожжы з аднаго самадзейнага калектыву ў другі сталі законнымі. Асабліва часта Генадзь Іванавіч бываў у Вялікім Падлессі. Гэты хор лічыўся адным з лепшых не толькі ў сваёй вобласці, але і ў рэспубліцы. І вось напярэдадні 30-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі этнаграфічны калектыў атрымаў запрашэнне прыехаць на дні свята ў Маскву. У Маскву былі запрошаны прадстаўнікі мастацтва многіх саюзных рэспублік, сярод якіх вясковы хор Вялікага Падлесся быў адзіным непрафесійным самадзейным калектывам. Самадзейныя артысты ўсе 12 канцэртаў правялі з вялікім поспехам.

Калі Генадзь Іванавіч прыехаў з Масквы, дома яго чакаў загад начальніка Упраўлення па справах мастацтваў пры Савеце Міністраў БССР, якім ён прызначаўся мастацкім кіраўніком Міжабласнога ансамбля песні і танца ў горадзе Маладзечна. У ансамблі не было традыцый, не адчувалася, што калектыў складаецца з аднадумцаў, якія разам ідуць да пэўнай мастацкай мэты. Генадзь прыкладаў усе сілы і веды, каб разам з калектывам знайсці шлях у вялікае мастацтва, удыхнуць веру ва ўласныя сілы ўдзельнікаў ансамбля. Але некалькі месяцаў упартай працы не далі жаданых вынікаў. Ён лічыў, што не павінен заставацца на пасадзе мастацкага кіраўніка ансамбля і папрасіў перавесці яго на ранейшую работу.

Калі ў 1949 годзе Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР за плённую працу па развіцці самадзейнага мастацтва надаў лепшым з лепшых кіраўнікам народных калектываў званне заслужаных дзеячаў мастацтваў Беларусі, то ва ўказе стаяла і прозвішча Г.Цітовіча.

Канец саракавых і пачатак пяцідзесятых гадоў быў надзвычай плённым перыядам у творчым жыцці Генадзя Іванавіча. Ён кансультаваў многія аматарскія калектывы, удзельнічаў ва ўсіх фальклорных экспедыцыях Акадэміі Навук БССР, быў нязменным удзельнікам этнаграфічных канферэнцый, пленумаў, сесій. Вялікую навуковую каштоўнасць прадстаўляюць яго выступленні ў друку. У гэты ж перыяд выйшлі ў свет першыя зборнікі народных песень, запісаных Генадзем Цітовічам. Рознабаковая кіпучая дзейнасць зрабіла Генадзя Іванавіча надзвычай папулярным у Беларусі і шырока вядомым у музычных колах Савецкага Саюза.

У 1951 годзе Г.Цітовіча запрасілі пераехаць у Мінск і прыступіць да выканання абавязкаў старшага метадыста Рэспубліканскага Дома народнай творчасці. Цяпер яго падарожжы па ўсёй Беларусі набылі поўную законнасць і сталі больш працяглымі і карыснымі.

І вось у самым пачатку 1952 года Савет Міністраў Рэспублікі прыняў пастанову аб заснаванні Дзяржаўнага Народнага хору БССР. Мастацкім кіраўніком новага калектыву быў прызначаны Генадзь Іванавіч Цітовіч. Усе ведалі, што ён, як ніхто другі, зможа ўдыхнуць жывую душу ў народны хор. Генадзь Іванавіч з запалам узяўся за камплектацыю будучага калектыву. Быў аб'яўлены конкурс спевакоў і танцораў у народны хор, вялася шырокая перапіска з Дамамі народнай творчасці, абласнымі і раённымі ўстановамі культуры. Паступова запаўняліся ўсе групы будучага калектыву: харавая, танцавальная і аркестравая. Пачалася напружаная праца. Большасць з артыстаў не толькі не мела ніякай прафесійнай адукацыі, а нават не ведала нот. Затое жаданне пазнаць усе сакрэты выканаўчага майстэрства было бязмежным. Праз самы кароткі час пачалі вырысоўвацца характэрны выканаўчы стыль і творчае аблічча будучага прафесійнага музычнага калектыву. У верасні 1952 года новы калектыў упершыню паказаў сваё мастацтва беларускім кампазітарам, спевакам, музыкантам. І гэты паказ не толькі выклікаў самыя гарачыя водгукі і пераканаўча гаварыў аб вялікіх патэнцыйных магчымасцях хору, але і надаў кампазітарам жаданне пісаць для такога калектыву.

Калі калектыў развучыў, добра засвоіў і "абкатаў" на закрытых праглядах каля 40 песень і танцаў, ён пачаў сваю канцэртную дзейнасць. Упершыню Дзяржаўны Народны хор выступіў перад шырокай аўдыторыяй у дні святкавання 35-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. А праз чатыры месяцы ў Акруговым Доме афіцэраў адбыліся канцэрты калектыву па спецыяльнай вялікай праграме ў двух аддзяленнях. Так Народны хор атрымаў пуцёўку ў жыццё.

Самай знамянальнай падзеяй у творчым жыцці маладога калектыву быў яго ўдзел у канцэртах Другой дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве ў лютым 1955 года. Дэкадныя канцэрты далі многа цікавага, важнага і карыснага маладому калектыву. За ўдзел у дэкадзе беларускага мастацтва многія артысты хору былі ўзнагароджаны высокімі ўрадавымі ўзнагародамі, а Генадзь Іванавіч Цітовіч разам з ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга атрымаў і ганаровае званне народнага артыста БССР.

Летам 1955 года Народны хор прыняў удзел у Пятым Сусветным фестывалі дэмакратычнай моладзі ў абарону міру, які праходзіў у Варшаве. Падрыхтоўка да фестывальных канцэртаў патрабавала ад калектыву велізарнай творчай працы, напружання ўсіх сіл.

Летам 1957 года хор прыняў удзел ва Усесаюзным, а потым і Шостым Сусветным фестывалях у Маскве. Калектыў хора можна было сустрэць у Палацах культуры маскоўскіх фабрык і заводаў, на канцэртных эстрадах сталічных паркаў, у Валакаламску, куды беларускія артысты выязджалі, каб ускласці вянкі на магілы герояў-панфілаўцаў.

Засталіся ў памяці харыстаў урачыстыя канцэрты беларускай дэлегацыі ў тэатры імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі, сустрэчы з дэлегацыямі Індыі, Італіі, Польшчы, Кубы, Бірмы, Туніса і інш.

**Песня крылатая свет абляцела.**

Усе без выключэння раёны Беларусі, Прыбалтыка, Урал і Сібір, самыя паўночныя гарады Савецкага Саюза, Крым і Каўказ, рэспублікі Сярэдняй Азіі, сотні гарадоў і вёсак – такі шлях Дзяржаўнага Народнага хору. Калектыў стаў шчырым прапагандыстам беларускага нацыянальнага мастацтва за межамі СССР.

Генадзь Іванавіч здолеў навучыць кожнага харыста любіць свае песні, глыбока разумець іх прыроду і характар, пры выкананні кожнага твора ён прымушаў харыстаў жыць яго зместам, радавацца і гараваць, кахаць і сумнявацца, кпіць і смяяцца.

Народнае мастацтва заўсёды застаецца маладым. Напэўна, і людзі, улюбёныя ў яго, якія аддаюцца яму без астачы, не старэюць так хутка, як іншыя. Такія думкі прыходзілі ў галаву людзям, якія блізка ведалі Генадзя Іванавіча. Заўсёды вясёлы, дасціпны, жывы, непаседлівы, ён меў здольнасць раптоўна знікаць на некалькі дзён, з'яўляцца, як віхор, і зноў знікаць. Грэбуючы камфортам, хатняй утульнасцю, не зважаючы на надвор'е, кожную вольную гадзіну ён гатовы быў падарожнічаць.

Закінуўшы за плечы пляцак, ён крочыў па бясконцых дарогах Беларусі, каб запісваць новыя песні. Вострым назіральным вокам падмячаў змены, што адбыліся ў тых мясцінах за апошнія гады, сустракаў старых знаёмых – аматараў спеваў, вясковых стваральнікаў музыкі, якія ў свой час памагалі яму ў запісах.

Часта сустракаўся Генадзь Іванавіч і з другімі знаёмымі – песнямі, якія ён некалі запісаў і выпусціў у свет. Так вярталася народу лепшае, узятае ў яго – народныя песні-самацветы. Але ў якой цудоўнай і багатай аправе! У аправе, якую можа стварыць толькі сапраўды таленавіты і чулы мастак з гарачым сэрцам і любоўю да ўсяго народнага, усёй душой аддазы роднаму мастацтву. Мастак, якім з'яўляўся народны артыст СССР Генадзь Іванавіч Цітовіч.

Памёр Генадзь Іванавіч Цітовіч 20 чэрвеня 1986 года. Вядомы паэт Уладзімір Карызна напісаў "Песню памяці". У гэтым вершы пра вялікага Чалавека і Музыканта чытаем:

За вас заўсёды
Песня гаварыла.
І будзе вечна
Вамі гаварыць…



